НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ
ШКОЛЬНАЙ ПЕДАГОГІКІ БССР

# КАНСУЛЬТАЦЫЯ НАСТАЎНІКУ

(ВЫХОДЗІЦЬ ШТОМЕСЯЧНА)

№ 1
КАСТРЫЧНІК



МЕНСК—1937

НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ
ШКОЛЬНАЙ ПЕДАГОГІКІ БССР

# КАНСУЛЬТАЦЫЯ НАСТАЎНІКУ

(ВЫХОДЗІЦЬ ШТОМЕСЯЧНА)

№ 1
КАСТРЫЧНІК



МЕНСК — 1937

## ДА ЎВАГІ НАСТАЎНІКАЎ

Навукова-Даследчы Інстытут Школьнай Педагогікі БССР выпускае І-ы нумар зборніка „Кансультацыя настаўніку“, які ўключае адказы на найбольш актуальныя пісьмовыя пытанні настаўнікаў школ БССР.

Ажыццяўляючы рашэнні ЦК ВКП(б) аб вывучэнні і абагульненні вопыта школ і настаўніцтва, Інстытут, праз зборнік, у адказах на запытанні будзе сістэматычна асвятляць пытанні вучэбна-выхаваўчай работы школы, пытанні методыкі выкладання і комуністычнага выхавання ў цэлым.

У мэтах павышэння ідэйна-палітычнага ўзроўня і кваліфікацыі настаўніка, зборнік будзе асвятляць пытанні барацьбы партыі за будаўніцтва совецкай школы, весці несупынную барацьбу з астаткамі педалагічных скажэнняў у практыцы работы школы, рэцыдывамі контррэволюцыйнай антыленінскай тэорыі „адмірання школы“.

Польска-германскія шпіёны, троцкісцка-бухарынскія бандыты, нацдэмы і інш. контррэволюцыйная зграя на працягу рада гадоў зрывалі выкананне дырэктыў партыі ў галіне культурнага будаўніцтва. Мы павінны дапамагчы ліквідаваць рэшткі шкодніцтва ў органах Нарасветы БССР. Бязлітасная барацьба з варожымі ўплывамі ў педагагічнай тэорыі і школьнай практыцы, выкарчоўванне гэтых уплываў з'яўляецца нашай першачарговай задачай.

НДІ Школьнай Педагогікі запрашае настаўнікаў школ БССР прыняць актыўны ўдзел у выдаваемым намі зборніку шляхам дасылкі пісьмовых пытанняў, абмена вопытам па вучэбна-выхаваўчай рабоце школы, а таксама абгаварэння адказаў, якія будуць змяшчацца ў нашым зборніку.

**Наш адрас: Менск, Універсітэцкі гарадок, Галоўны корпус.**

*НДІ Школьнай Педагогікі.*

---

## „ШТО МНЕ, ЯК КЛАСНАМУ КІРАЎНІКУ 5-га КЛАСА, ТРЭБА ЗРАБІЦЬ У СВАІМ КЛАСЕ ПА ВЫХАВАННЮ ДЗЯЦЕЙ У ДУХУ СОВЕЦКАГА ПАТРЫЯТЫЗМА“

(ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА Я., г. МЕНСК)

Раней за ўсё Вы павінны сабе ясна ўявіць, што такое совецкі патрыятызм і ў чым яго сутнасць.

Совецкі патрыятызм—дзецішча Вялікай Кастрычніцкай социялістычнай рэволюцыі.

„Мы—абаронцы цяпер, з 7 лістапада (25 кастрычніка) 1917 года,—пісаў Ленін у 1918 годзе,—мы—за абарону бацькаўшчыны з гэтага дня“ (Ленін, т. 22, стар. 291). Кастрычніцкая социялістычная рэволюцыя парадзіла гэтае магутнае пачуццё, натхняючае мільёны людзей.

Совецкі патрыятызм—гэта бязмежная адданасць і любоў да сваёй социялістычнай радзімы, да роднай комуністычнай партыі, да нашага правадыра і настаўніка—Вялікага Сталіна.

Совецкі патрыятызм—гэта ўменне і гатоўнасць абараняць сваю социялістычную радзіму ад фашысцкіх інтэрвентаў, трацкісцка-бухарынскай банды шкоднікаў, шпіёнаў, дыверсантаў, ад усіх яе ворагаў.

Совецкі патрыятызм—гэта канкрэтны, жывы, актыўны штодзённы ўдзел у социялістычным будаўніцтве; гэта стойкасць, самаадданасць, мужнасць, адвага і ўпартасць у барацьбе за ўмацаванне і далейшы росквіт гаспадарчай, культурнай і палітычнай магутнасці нашай радзімы.

Совецкі патрыятызм—гэта глыбокае пачуццё міжнароднай пролетарскай салідарнасці і мэтаімкненная барацьба за справу сусветнай пролетарскай рэволюцыі, гэта братэрская дружба народаў СССР—бацькаўшчыны сусветнага пролетарыята.

Вялікая Кастрычніцкая социялістычная рэволюцыя падняла нашу краіну на недасяжную вышыню, на вяршыню

славы і магутнасці. Мільёны працоўных зажылі новым радасным, заможным, культурным, шчаслівым жыццём. Соцыялістычная рэволюцыя дала мільёнам працоўных не толькі свабоду, але і матэрыяльныя выгады. „Жыць стала лепш, жыць стала весялей“ (Сталін). Вялікую праўдзівасць гэтых слоў правадыра народаў тав. Сталіна ведае, адчувае кожны працоўны нашай краіны.

Працоўныя Савецкага Саюза любяць сваю цудоўную соцыялістычную радзіму. Шматгранная і яркая гісторыя соцыялістычнага будаўніцтва пад кіраўніцтвам вялікай партыі Леніна—Сталіна; усе пройдзеныя народамі нашага Саюза вялікія этапы ад перыяда захопу ўлады да заваёвы вышынь першай і другой пяцігодкі, ад грамадзянскай вайны да пакарэння Арктыкі і стратасферы—яркі паказ глыбокай любві і адданасці, якія бурным полымем гараць у сэрцах працоўных. Гэтая любоў і адданасць да сваёй радзімы была крыніцай нябачнай адвагі, храбрасці, мужнасці і ў годы грамадзянскай вайны, і ў годы соцыялістычнага будаўніцтва. „Жыць і тварыць у імя комунізма, для мільённых мас, рыхтавацца сябе да будучых баёў за радзіму—што можа быць вышэй і больш пачэсна за гэтую вялікую мэту... Законам усяго свайго жыцця савецкі чалавек павінен зрабіць сталінскія словы, поўныя большэвіцкай страсці і благародства: „Калі-б кожны крок у маёй рабоце па ўзвышэнню рабочага класа і ўмацаванню соцыялістычнай дзяржавы гэтага класа не быў накіраваны на тое, каб умацаваць і палепшыць становішча рабочага класа, то я лічыў-бы сваё жыццё бязмэтным“ („Правда“, № 260, 20/IX-37 г.).

Але нельга забываць, што значная частка насельніцтва Савецкага Саюза складае пакаленне людзей, якія ўвайшлі ў жыццё пасля Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Адных школьнікаў налічваецца ў нас 30 мільёнаў; гэта дзеці, юнакі і дзяўчаты, якія ведаюць аб праклятым жыцці сваіх бацькоў пры царызме, аб дзікім прыгнёце, бяспраўі і жорсткай эксплаатацыі толькі па расказах і кнігах. Гэтага нельга забываць, калі мы гаворым аб выхаванні дзяцей у духу савецкага патрыятызма.

Зараз, калі мы з Вамі высветлілі ў агульных рысах, што такое савецкі патрыятызм і ў чым яго сутнасць, мы пяройдзем да пытання аб тым, што Вы, як класны кіраўнік, павінны зрабіць у сваім класе ў мэтах выхавання вучняў у духу савецкага патрыятызма.

Па-першае, Вы павінны сабе яскрава ўявіць, што выхаванне савецкага патрыятызма не можа ажыццяўляцца ў выглядзе нейкай кампаніі. Яно павінна знаходзіць сваё адлюстраванне ў штодзённай рабоце школы ў цэлым і кожнага настаўніка ў паасобку. Вы, як класны кіраўнік, павінны

растлумачваць гэта настаўнікам свайго класа і дабівацца ад іх рэалізацыі гэтай устаноўкі.

Асновы навук: гісторыя, геаграфія, літаратура і іншыя прадметы з'яўляюцца адным з асноўных сродкаў у справе выхавання совецкага патрыятызма.

Прывядзем некалькі прыкладаў, дзе пакажам, як выхаваннем совецкага патрыятызма павінна быць пранізана выкладанне ўсіх вучэбных прадметаў у школе.

У гэтым годзе ў 5-х класах будзе выкладацца гісторыя СССР. На аснове канкрэтнага вывучэння гісторыі СССР настаўнік павінен раскрыць перад дзецьмі гераічнае мінулае нашага народа і выдатнае яго сучаснае.

У гісторыі нашай радзімы было многа сялянскіх паўстанняў супроць памешчыкаў, была ўпартая барацьба пралетарыята, але гэтыя паўстанні, гэтая барацьба не мелі поспеху да таго часу, пакуль рабочы клас не стварыў сваю большэвіцкую партыю, непераможную партыю Леніна—Сталіна, пакуль не склаўся і не ўмацаваўся непарыўны саюз пралетарыята і сялянства. У гісторыі СССР нямала яркіх старонак вызваленчай барацьбы народаў, якія былі пад пятой царскага самадзяржаў'я. Але гэтая барацьба была асуджана на паражэнне да таго часу, пакуль рабочы клас у саюзе з сялянствам, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, не падняў шматлікія народы нашай краіны на штурм капіталізма. Толькі перамога Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі забяспечыла стварэнне свабоднага супрацоўніцтва народаў, якім з'яўляецца СССР, і небывалы рост іх культуры, соцыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме. Гісторыя нашай радзімы багата незабывальнымі карцінамі самаадданай барацьбы народаў супроць чужаземных інтэрвентаў. Вялікая соцыялістычная рэволюцыя зрабіла нашу радзіму непераможнай. Вывучэнне гісторыі павінна паказаць нашым дзецям, як наша краіна з адсталай у мінулым ператварылася пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі ў магутную і непераможную.

Падручнік знаёміць дзяцей з грандыёзнымі поспехамі соцыялістычнага будаўніцтва, з героямі нашай краіны, з Вялікай Сталінскай Канстытуцыяй—самай дэмакратычнай канстытуцыяй у свеце.

Падручнік знаёміць дзяцей з велічнай гісторыяй большэвіцкай партыі, з яе барацьбой супроць контррэволюцыйных партый—меншавікоў і эсэраў, супроць трацкісцка-бухарынскіх фашысцкіх шпіёнаў, дыверсантаў і забойцаў.

Усё гэта дае настаўніку ўдзячны матэрыял для выхавання ў дзяцей свяшчэнных пачуццяў совецкага патрыятызма, бязмежнай адданасці соцыялістычнай радзіме і палкай, непрымірымай ненавісці да ўсіх яе ворагаў.

Зараз некалькі слоў аб выкладанні геаграфіі.

Геаграфія павінна паказаць вучням сілу, магутнасць, хараство і багацце нашай вялікай радзімы. У 5-м класе, вывучаючы формы земнай паверхні, дзеці атрымліваюць матэрыялістычныя ўяўленні аб паходжанні зямлі. Разам з тым яны набываюць канкрэтныя веды аб карысных выкапнях, аб нетрах. Тут з вялікім поспехам можна проціпаставіць багацці Совецкага Саюза нетрам і выкапням другіх краін. У тэме „Вада на зямлі, моры і акіяны" ў настаўніка ёсць вялікая магчымасць паказаць поспехі нашай воднай гаспадаркі, будаўніцтва каналаў Волга-Дон, Волга-Масква, Беламорска-Балтыйскі канал (злучэнне 5-ці мораў, каласальнае гаспадарчае і абароннае значэнне гэтага злучэння). Трэба расказаць аб той рабоце, якая вядзецца па вывучэнню і даследванню мораў і акіянаў. У сувязі з гэтым будзе вельмі цікава коратка расказаць дзецям аб навуковых даследваннях групы Папаніна на станцыі Паўночны Полюс.

Зразумела, ад настаўніка не патрабуецца ператвараць гэтыя ўрокі ва ўрокі эканамічнай геаграфіі, але цэлы рад апісанняў жыцця нашай краіны можна даць, не гледзячы нават на тое, што ў 7-м класе вучні будуць падрабязна вывучаць фізічную геаграфію СССР.

Расказваючы аб падарожжах вакол зямлі, трэба расказаць і аб рускіх падарожніках, якія ўнеслі вялікі ўклад у фізічную геаграфію. Расказваючы аб атмасферы, настаўнік дае матэрыялістычныя веды па цэламу раду фізічных з'яў (дождж, снег і т. д.). У тэме „Атмасфера" ніяк нельга абыйсці маўчаннем нашы даследванні стратасферы (палёты лётчыкаў Какінакі, Алексеева, Пракоф'ева і інш.).

Вывучаючы тэму „Чалавек", настаўнік указвае на велізарнейшыя змены, якія адбыліся ў нашай краіне: стварэнне новых гарадоў, павелічэнне шчыльнасці насельніцтва, вызваленне на аснове ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі ўсіх нацый, раней забітых, прыгнечаных, прыдушаных капіталізмам.

Як бачым, выкладанне геаграфіі дае вялікія магчымасці ў справе выхавання ў дзяцей матэрыялістычнага светапогляду, інтэрнацыяналізма, сапраўднага совецкага патрыятызма, глыбокай ненавісці да ворагаў народа.

Мы не можам у даным пісьме спыніцца на іншых прадметах, як мова, літаратура, матэматыка і інш., выкладанне якіх таксама можа быць так пабудавана, каб на кожным уроку ў вучняў расло і мацнела пачуццё совецкага патрыятызма.

Памятайце: ні адзін вучэбны прадмет у совецкай школе не можа быць у баку ад задач палітычнага выхавання.

Вы, як класны кіраўнік, адказваеце за палітычнае выхаванне свайго класа. Вы павінны кіраваць палітычным выхаваннем у класе. З гэтай адказнай і пачэснай задачай Вы можаце справіцца, калі будзеце няўхільна працаваць над узняц-

цем свайго ідэйна-палітычнага, культурнага ўзроўню і педагагічнага майстэрства. Зразумела, класны кіраўнік—гэта не хадзячая энцыклапедыя, але гэта высокакультурны, палітычна свядомы, адданы партыі і радзіме педагог, які правільна разбіраецца ў пытаннях палітыкі партыі і ўрада, у сацыялістычным будаўніцтве СССР, у міжнародным становішчы, які любіць і вядзе дзяцей, вядзе барацьбу за высокую якасць вучобы, за свядомую дысцыпліну, за палітычнае выхаванне вучняў.

Вакол гэтых задач павінен быць арганізаваны настаўніцкі і вучнёўскі калектыў.

Па-другое, Вы павінны памятаць, што выхаванне савецкага патрыятызма не абмяжоўваецца выхаваўчай работай на ўроку. Вялікае значэнне мае і пазакласная работа.

Па лініі пазакласнай работы мы спынімся на бліжэйшых мерапрыемствах, якія Вы маглі-б ажыццявіць у І-м квартале.

У першую чаргу трэба арганізаваць *вечар, ранішнік або збор атрада, прысвечаны выбарам у Вярхоўны Совет.* Гэта мерапрыемства павінна ў яркай, пажадана мастацкай форме, паказаць дзецям прынцыповую розніцу паміж выбарамі ў СССР і выбарамі ў капіталістычных краінах, яно павінна паказаць дзецям веліч Сталінскай Канстытуцыі і яе сусветнагістарычнае значэнне.

Падрыхтоўка да Дваццацігоддзя Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі павінна быць максімальна выкарыстана ў мэтах выхавання савецкага патрыятызма. Вечары, ранішнікі, прысвечаныя 20-му Кастрычніку, павінны паказаць дзецям гіганцкія поспехі соцыялістычнага будаўніцтва за 20 год, роль Леніна і Сталіна ў соцыялістычным будаўніцтве. Было-б добра арганізаваць вечар, прысвечаны жыццю і дзейнасці т. Сталіна. Жыццё т. Сталіна, поўнае гераічнай барацьбы за справу комунізма, павінна ўстаць перад дзецьмі ва ўсёй велічы. Было-б добра, калі-б перад рэбятамі паставілі канкрэтную абаронную задачу: да 20-й гадавіны Кастрычніка стаць усім значкістамі, здаць нормы на адпаведныя значкі.

Вы можаце класам арганізаваць вітрыну-каляндар пошукаў т. Леванеўскага і яго таварышоў. Гэтая вітрына павінна паказаць магутнасць савецкай авіяцыі, сталінскія клопаты аб людзях і большэвіцкую настойлівасць у барацьбе па заваёве Паўночнага полюса.

Было-б добра арганізаваць для дзяцей знаёмства з жыццём выдатных большэвікоў, выкарыстоўваючы матэрыялы „Правды" і інш. газет. Такое мерапрыемства можа мець і гуртковы характар і можа праводзіцца ў выглядзе гутаркі і чыткі для дзяцей у пазакласны час.

Варта-б стварыць прыгожы альбом, паказваючы гераіку нашых дзён. Дзеці—юныя сябры пагранічнікаў, актыўныя

барацьбіты з крушэннямі паяздоў, рэбяты-ордэнаносцы і т. д. Такі альбом можа быць падрыхтаваны сіламі школьнікаў, піянераў пад Вашым кіраўніцтвам.

Рэбяты праяўляюць вялікі інтарэс да падзей у Іспаніі, у Кітаі, але многае з гэтых падзей ім незразумела. Трэба было-б раз у пяцідзёнку ў даступнай рэбятам форме рабіць *абагульненні падзей, якія адбываюцца ў Іспаніі, у Кітаі.* Гэта дапамагло-б дзецям арыентавацца ў палітычных падзеях. Дапамогу ў гэтай рабоце павінны аказаць выкладчыкі гісторыі і геаграфіі.

Вось тыя мерапрыемствы, якія Вы можаце ажыццявіць у парадку пазакласнай работы.

Нарэшце, Вы павінны ў сваёй рабоце з бацькамі не выпускаць з поля зроку пытанні выхавання совецкага патрыятызма. Неабходна растлумачыць бацькам сутнасць совецкага патрыятызма і ўказаць, што яны павінны рабіць у адносінах выхавання дзяцей у духу совецкага патрыятызма.

Дзеці—юныя патрыёты социялістычнай радзімы—павінны добра вучыцца, быць свядома-дысцыплінаванымі рэбятамі. Гэта трэба сістэматычна растлумачваць школьнікам. Неабходна, каб дзеці гэта добра зразумелі. Яны павінны ведаць, што ўвага і клопаты, якімі акружаюць іх партыя, урад, асабіста т. Сталін, ставяць перад імі адно асноўнае патрабаванне: *быць вернымі і дастойнымі сынамі і дачкамі нашай слаўнай социялістычнай радзімы.*

*Старшы навуковы работнік НДІ школьнай педагогікі*
*І. ФРЭЙДМАН.*

---

## АСНОЎНЫЯ ЭЛЕМЕНТЫ ЎРОКА

(ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА Б., ЖЛОБІНСКІ Р-Н, КАБАНАЎСКАЯ НСШ)

Урок, як сказана ў гістарычнай пастанове ЦК ВКП(б) ад 25/VIII-32 г., з'яўляецца асноўнай формай арганізацыі вучэбнай работы ў школе. Таму якасць правядзення ўрока павінна быць пастаўлена ў нашай школе на самы высокі ўзровень.

Урок не можа праходзіць па раз назаўсёды данаму трафарэту. Структура ўрока вызначаецца, галоўным чынам, зместам (вучэбным прадметам), канкрэтнай мэтай, якую паставіў сабе настаўнік на гэтым уроку, і, да некаторай ступені, узростам дзяцей.

Звычайна на практыцы ўжываюцца наступныя віды ўрокаў:

Урок аб'ясняльны (настаўнік аб'ясняе новы матэрыял);

Урок паўтарэння;

Урок кантрольны.

Кожны з гэтых урокаў будзе мець сваю асаблівую структуру, але паколькі аб'ясняльны ўрок з'яўляецца самым асноўным і самым распаўсюджаным, спынюся толькі на структуры гэтага ўрока (у 5—7 кл.).

У аб'ясняльны ўрок у 5—7 класах уключаюцца наступныя этапы:

1) арганізацыя работы ў пачатку заняткаў;

2) паўтарэнне мінулага матэрыялу;

3) ізлажэнне настаўнікам новага матэрыялу і абагульненне;

4) паўтарэнне і замацаванне новага матэрыялу;

5) заданне на дом.

Зусім зразумела, што не ўсякі ўрок уключае ўсе пералічаныя этапы. Асаблівасці структуры ўрока, акрамя вышэйсказанага, залежаць ад спецыфікі выкладаемага прадмета.

Разгледзім, што сабою ўяўляе кожны з вышэй пералічаных этапаў урока.

### 1. Арганізацыя работы ў пачатку заняткаў (0,5—1мін.)

Перш чым пачаць ізлажэнне матэрыялу, настаўнік звычайна робіць праверку прысутных вучняў па журналу або са слоў дзяжурнага. Адначасова ён наводзіць парадак у класе: загадвае правільна сядзець, убраць усе пабочныя рэчы з парт і падрыхтаваць усе неабходныя для заняткаў вучэбныя дапаможнікі (кнігі, сшыткі, ручкі, дошку, мел і т. д.).

Калі вучні самі падрыхтаваліся да заняткаў, то настаўнік толькі правярае іх падрыхтаванасць.

### 2. Паўтарэнне мінулага матэрыялу (5—7 мін).

Услед за падрыхтоўкай настаўнік часта правярае веды вучняў па мінуламу матэрыялу. Акрамя таго, ён арганізоўвае паўтарэнне і таго матэрыялу, які павінен быць звязаны са зместам новага.

Асноўныя задачы паўтарэння: а) замацаванне раней пройдзенага матэрыялу, кантроль ведаў; б) стварэнне ўмоў для разумення матэрыялу, ізлагаемага на даным уроку.

Паўтарэнне можна праводзіць рознымі спосабамі: пры дапамозе адказаў вучняў на пытанні, метадам расказа, выкананнем невялікіх практычных работ і т. д.

Пры гэтым асаблівую ўвагу трэба звярнуць на тое, каб навучыць вучня ўжо з 3-га класа звязнаму, лагічнаму расказу. Трэба лічыць зусім недапушчальным такое становішча, калі вучні, пераходзячы ў 5-ты клас, не ўмеюць выказваць свае думкі ў выглядзе расказа.

Звычайна ў гэтай частцы ўрока правяраецца і выкананне дамашніх заданняў.

### 3. Ізлажэнне новага матэрыялу (30—35 мін.)

Настаўнік ізлагае новы матэрыял, прымяняючы разнастайныя метады навучання. Пры гэтым ён павінен:

а) ізлагаць свае веды марксісцка-вытрымана і палітычна завострана, распалагаючы навуковыя факты ў стройнай сістэме, падаючы іх у яскравай і цікавай форме;

б) для лепшага засваення падкрэсліць найбольш важныя месцы і фіксаваць на іх увагу дзяцей;

в) увязаць новы матэрыял з мінулымі ведамі вучняў, не робячы вялікіх адступленняў для паўтарэння мінулага;

г) калі матэрыял вялікі па аб'ёму, то ў працэсе яго ізлажэння зрабіць некалькі падагульненняў па частках;

д) пасля ізлажэння новага матэрыялу зрабіць асноўны вывад, увязваючы яго з папярэднімі ведамі вучняў, прывесці іх у стройную сістэму.

### 4. Паўтарэнне новага матэрыялу (5—7 мін.)

У мэтах больш глыбокага разумення ізложанага матэрыялу, засваення апошняга і ўстанаўлення ступені разумення, праводзіцца паўтарэнне самага галоўнага ў форме пытанняў і адказаў, расказа або рашэння задач і т. д.

### 5. Заданне на дом (2—4 мін.)

Неабходна так пабудаваць урок, каб заданне на дом давалася да званка. Настаўнік павінен дакладна растлумачыць заданне вучням:

а) што трэба рабіць (прачытаць адпаведны параграф, старонку і т. д.);

б) як выканаць работу (на што звярнуць асаблівую ўвагу пры рабоце, што завучыць напамяць, як карыстацца дома нагляднымі дапаможнікамі; калі неабходна чытаць вялікі артыкул, трэба растлумачыць, як яго чытаць: па частках або цалкам і т. д.).

У некаторых выпадках, асабліва ў малодшых класах, настаўнік нават зачытвае асобныя найбольш цяжкія ўрыўкі заданага на дом матэрыялу, растлумачвае іх вучням.

Кожны этап аб'яснялънага ўрока, яго працягласць будзе залежаць ад узросту дзяцей, зместу ўрока, стану ведаў. Так, у пачатковай школе на ізлажэнне новага матэрыялу даецца значна менш часу, чым у сярэдняй школе, а на паўтарэнне ўноў ізложанага адводзіцца значна больш часу. Тлумачэнне задання на дом у пачатковай школе павінна займаць таксама значна больш часу, чым у сярэдняй школе. У старшых класах сярэдняй школы працягласць кожнага этапа таксама іншая: падрыхтоўка да заняткаў, заданне на дом, паўтарэнне займаюць меншую частку часу, а амаль увесь час ідзе на ізлажэнне новага матэрыялу.

*Старшы навуковы работнік А. ЯВОРСКІ*

---

## ЯК ВЫПРАЎЛЯЦЬ ПАМЫЛКІ ПРЫ ПІСЬМЕ

(ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА Б., БЯРЭЗІНСКІ Р-Н, ПЕРАВОЗСКАЯ НСШ)

Выкладчык павінен сістэматычна праглядаць усе вучнёўскія сшыткі і ўважліва выпраўляць усе памылкі. Тэхніка выпраўлення арфаграфічных памылак наступная: настаўнік акуратна чырвонымі чарніламі закрэслівае няправільна напісаную літару, а зверху піша правільную.

Стылістычныя памылкі выпраўляюцца так: няправільны зварот сказа выкладчык замяняе правільным або падкрэслівае даны сказ пакручастай рыскай, а на палях супроць тэкста робіць адзнакі, у чым няправільнасць данага сказа.

Лагічныя памылкі падкрэсліваюцца пакручастай рыскай, а на палях ставяцца адпаведныя пытанні, дапамагаючыя вучню выправіць памылкі. Выпраўленне памылак — гэта першы этап работы.

Недастаткова падкрэсліць няправільна напісанае слова, надпісаць зверху правільна,—трэба вельмі ўдала арганізаваць далейшую работу над гэтымі памылкамі. Памылкі вучняў трэба класіфікаваць у сувязі з вывучэннем граматыкі, што дапаможа настаўніку вывучыць як увесь клас, так і кожнага вучня паасобку.

Табліцы індывідуальнага ўліку памылак вучняў не павінны быць вялікімі, яны павінны ўключаць асноўныя раздзелы вучэбнай праграмы данага класа. Такі ўлік неабходзен. Ён вельмі дапамагае справе барацьбы за высокую пісьменнасць.

Пасля кантрольнай работы на падставе атрыманых даных раіцца для большай нагляднасці скласці дыяграму пісьменнасці ўсяго класа і кожнага вучня. Настаўнік намячае рад мерапрыемстваў як для ўсяго класа ў цэлым, так і для паасобных вучняў па лепшаму засваенню вучэбнага матэрыялу.

Пасля выпраўлення і ўліку памылак на даму, выкладчык у блакнот выпісвае ўсе тыповыя памылкі класа. Прыходзячы ў клас, ён адразу сшыткаў не раздае, а прыступае да арфаграфічнага разбору і аналізу слоў, тэкста з няпра-

вільным напісаннем. Калі раздаць сшыткі адразу, то вучня больш зацікавіць атрыманая ацэнка, і ён будзе праяўляць мала актыўнасці, інтарэсу ў далейшай рабоце. Пасля разбору зробленых памылак раздаюцца сшыткі і прапануецца правільна выпісаць словы, у якіх былі дапушчаны памылкі. Калі правапіс аднаго слова не залежыць ад правапісу другога слова, то яно выпісваецца асобна. Словы, напісанне якіх можна растлумачыць у сувязі з другімі словамі, выпісваюцца разам з імі, а то і цэлым сказам.

Іншы раз можна практыкаваць кароткі папераджальны дыктант. У склад гэтага дыктанта ўваходзяць словы, у якіх вучнямі зроблены памылкі, але ўжо ў другім тэксце. Дадаткова можна прапанаваць вучням дома выпісаць гэтыя словы яшчэ раз у свае арфаграфічныя слоўнікі (сшыткі, у якіх вучні ў алфавітным парадку выпісваюць свае памылкі), прагледзець адпаведны параграф у граматыцы, падабраць к даным словам гнёзды родственых слоў і т. д.

Дадатковая літаратура па пытанню, якое Вас цікавіць:

1) артыкул Досычэвай—„Приемы работы над орфографическими ошибками“;

2) артыкул Шабліоўскага—„О качественном учете орфографических ошибок“;

3) артыкул Фідроўскай—„Опыт ведения словарей учащимися“. Усе артыкулы змешчаны ў журнале „Русский язык в школе“, № 2, 1936 г.

Вышэй адзначанымі прыёмамі работы над памылкамі Вы значна павысіце пісьменнасць класа і гэтым самым зменшыце затрату часу пры выпраўленні сшыткаў.

*Навуковы работнік С. ЦЭХАНОВІЧ.*

## ВІДЫ ДЫКТОВАК У 4, 5, 6 і 7 КЛАСАХ

(ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА К., АСВЕЙСКІ Р-Н, СТРАЛКОЎСКАЯ НСШ)

У НСШ ужываюцца рознастайныя віды дыктанта: папераджальны, творчы, кантрольны і інш.

Папераджальныя дыктанты бываюць трох відаў: зрокавыя, слухавыя і творчыя.

Якая-ж методыка правядзення гэтых дыктантаў?

### І. Методыка правядзення зрокавага папераджальнага дыктанта.

Звычайная форма правядзення гэтага віда дыктанта такая:

а) даецца вучням тэкст, напісаны на плакаце з вызначанымі арфаграмамі;

б) вучні чытаюць гэты тэкст, зварочваюць увагу на вызначаныя арфаграмы і шляхам граматычнага разбору тлумачаць іх напісанне;

в) вучні выпісваюць у сшыткі словы з вызначанымі арфаграмамі і падкрэсліваюць патрэбную частку слова (выкладчык запісвае гэта слова на дошцы);

г) вучні складаюць сказы, куды ўваходзяць гэтыя выпісаныя словы;

д) лепшыя сказы разбіраюцца і запісваюцца ў сшытку (выкладчык запісвае гэтыя сказы на дошцы, вучні ўглядаюцца ў напісанне кожнага слова, сказ сціраецца, і вучні самастойна пішуць у сшыткі).

Ёсць яшчэ і другі варыянт правядзення зрокавага папераджальнага дыктанта, які звычайна праводзіцца для замацавання рада пройдзеных правіл:

а) вучням даецца прачытаць тэкст па кнізе; пры чытанні



праводзіцца граматычны разбор (адзначаюцца выпадкі правапісання пэўных арфаграм);

б) вучні яшчэ раз уважліва праглядаюць гэтыя словы і закрываюць кнігі;

в) настаўнік дыктуе кожны сказ не больш аднаго-двух разоў, а вучні запісваюць;

г) вучні адкрываюць кнігі, правяраюць сваю дыктоўку па кнізе, выпраўляюць і падкрэсліваюць зробленыя памылкі;

д) вучні, якія нарабілі памылак, выклікаюцца для выпраўлення іх.

Калі работа праводзіцца ў 3-м, 4-м класах, то не варта разбіраць адразу ўсяго тэкста,—кожны сказ разбіраецца асобна: кнігі закрываюцца, сказ дыктуецца і зараз-жа выпраўляецца. У старэйшых класах (5, 6, 7) разбіраецца ўвесь тэкст, запісваецца, а затым ужо выпраўляецца.

Тэкст для папераджальнага дыктанта павінен быць цікавым і зразумелым для вучняў адпаведнага ўзросту.

Зрокавы дыктант ёсць першая і найбольш лёгкая ступень трэніровачных работ.

Далей віды трэніровачных работ ускладняюцца.

## 2. Папераджальны слухавы дыктант.

Пры папераджальным слухавым дыктанце спачатку праводзіцца граматычны разбор дыктуемага тэкста. Вучні тэкста перад сабой не бачаць, а толькі чуюць, як чытае яго выкладчык. Самы загаловак „папераджальны слухавы дыктант“ гаворыць за тое, што ён павінен быць слухавым дыктантам, які папераджае памылкі шляхам граматычнага разбору.

Пры напісанні трудных слоў, асабліва такіх, дзе галоўную роль маюць зрокавыя і маторныя ўспрыйманні, неабходна і пры слухавым папераджальным дыктанце пасля граматычнага разбору некаторыя з гэтых слоў напісаць на дошцы або паказаць на плакаце.

Парадак правядзення папераджальнага слухавога дыктанта:

а) паўтарэнне пэўных арфаграм;
б) чытанне тэкста;
в) граматычны аналіз кожнага сказа;
г) запіс тэкста пад дыктоўку.

## 3. Трэці від папераджальнага дыктанта—творчы дыктант.

Гэта пераходная ступень да самастойных работ. Ёсць многа рознастайных відаў гэтых дыктантаў. Выбар той ці

іншай формы творчага дыктанта залежыць ад характару і асаблівасцей вывучаемых арфаграм.

Творчы дыктант часцей другіх відаў дыктанта практыкуецца ў нашай школе. Парадак яго выканання наступны:

а) выкладчык з вучнямі паўтарае правапіс вывучаемых арфаграм;

б) выкладчык піша на дошцы рад слоў, якія маюць гэтыя арфаграмы;

в) вучні складаюць сказы на словы (словы звычайна ўстаўляюцца ў сказ без змен);

г) лепшыя прыклады разбіраюцца, а затым запісваюцца ў сшыткі ў мэтах папярэджання памылак.

Пры праходжанні дзеяслова можна скарыстоўваць і такую форму творчага дыктанта: выкладчык піша на дошцы загаловак і пачатак складзенага ім невялічкага апавядання, куды ўваходзіць цэлы рад слоў з вывучаемымі дзеяслоўнымі формамі; вучням прапануецца закончыць гэтае апавяданне.

Прыдумваюцца сказы, калектыўна абгаварваюцца і, такім чынам, заканчваецца апавяданне.

Акрамя ўсіх вышэй паказаных відаў дыктантаў, неабходна абавязкова практыкаваць і свабодныя дыктанты як для замацавання арфаграфічных, так і пунктуацыйных навыкаў.

Тэхніка правядзення свабоднага дыктанта складаецца з наступных момантаў:

а) настаўнік праводзіць кароткую гутарку аб мэтах прадстаячай работы;

б) настаўнік чытае ўвесь тэкст артыкула;

в) для праверкі таго, наколькі засвоены агульны змест, настаўнік задае вучням некалькі агульных пытанняў;

г) настаўнік чытае тэкст па асобных абзацах;

д) вучні самастойна запісваюць кожны абзац у сшыткі, не гонячыся за даслоўнай перадачай тэкста.

Прапрацоўку кожнай тэмы граматычнага раздзела мы павінны заканчваць кантрольным, ці праверачным дыктантам. Галоўная мэта гэтага віда дыктанта, як кажа сама яго назва,—кантроль, улік пройдзенага і ступень засваення.

Матэрыял кантрольнага дыктанта павінен быць невялікім: 3-і клас—70 слоў, 4-ы клас—100 слоў, 5-ы клас—120 слоў, 6-ы і 7-ы—150 слоў, Кантрольная дыктоўка павінна быць насычана словамі і сказамі на пройдзеныя правілы. Тэкст яе можа быць як звязным, так і састаячым з паасобных фраз, не звязаных паміж сабой. Выбар таго або іншага тэкста залежыць ад канкрэтнай мэты дыктоўкі.

Пры кантрольным дыктанце трэба зрабіць натуральную, спакойную абстаноўку. Настаўнік павінен дыктаваць чотка, выразна, не спяшаючыся. Пасля дыктоўкі неабходна даць

10—12 мінут вучню для самаправеркі работы. Пры кантрольным дыктанце настаўнік павінен сачыць за тым, каб усе вучні пісалі самастойна без усялякіх падказванняў, спісванняў, шпаргалак. Неабходна ў працэсе ўсёй вучэбнай работы растлумачваць вучням усю шкоднасць спісвання, падказванняў і т. д. Неабходна растлумачыць, што гэта нявартa гонару совецкага вучня.

*Навуковы работнік С. ЦЭХАНОВІЧ.*

---

## ЯК ВЫПРАЦАВАЦЬ У ВУЧНЯЎ 4-га КЛАСА ПРЫГОЖЫ ПОЧАРК

(ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА М., РЭЧЫЦКІ Р-Н, РАБУСАЎСКАЯ ПАЧАТКОВАЯ ШКОЛА)

Асноўнымі прычынамі, якія перашкаджаюць выпрацоўцы прыгожага почарка ў вучняў 4-га кл., будуць наступныя:

1. Няправільная пасадка пры пісьме, поўнае ігнараванне гэтага моманту з боку настаўніка;

2. Няўменне правільна трымаць прылады пісьма: ручку, аловак, крэйду, пісанне пяром „рандо" або іншымі невучнёўскімі пер'ямі і ручкамі, дрэнная якасць паперы ў сшытку, дрэнная якасць чарніл; адсутнасць увагі з боку настаўніка да ўсіх гэтых пытанняў;

3. Адсутнасць навыкаў правільнага пісьма ў першых класах, паслабленне запатрабаванняў з боку настаўнікаў 3-га і 4-га класаў у гэтых адносінах;

4. Хуткае, неахайнае пісьмо, адсутнасць канкрэтнага прыклада з боку настаўнікаў у адносінах прыгожага пісьма; адсутнасць арфаграфічнага і каліграфічнага рэжыма ў школе.

Вось тыя прычыны, якія галоўным чынам перашкаджаюць вучням 4-га класа пісаць прыгожа.

У тых школах, дзе гэтыя недахопы адсутнічаюць, дзе да пытання прыгожага пісьма прыкавана ўвага настаўнікаў на працягу ўсіх 4-х год навучання ў пачатковай школе, там вынікі вельмі добрыя, і вучні пераходзяць у 5-ы клас з цвёрдымі навыкамі прыгожага пісьма.

Трэба адзначыць, што ўвага настаўнікаў да прыгожага пісьма, упартасць і настойлівасць у барацьбе за гэтую справу вельмі дапамагаюць агульнай барацьбе школы за пісьменнасць.

З вышэй сказанага выцякаюць і шляхі выпраўлення почаркаў вучняў 4-га класа.

1. Не толькі ў 1-м і 2-м, але і ў 3-м і 4-м класах неабходна патрабаваць ад вучняў правільнай пасадкі, правільнага трымання ручкі, сшытка і т. д., усякі раз даючы вучням канкрэтны прыклад у гэтых адносінах.

2. Адвучыць вучняў ад звычкі пісаць хутка, неахайна, прапанаваць перапісаць вельмі непрыгожа напісаны тэкст.

3. Для вучняў з дрэнным почаркам увесці дадатковыя заданні-практыкаванні па спісванню з прыгожа напісанага тэкста.

4. Па рускай і беларускай мовах у тых выпадках, калі вучань можа пісаць прыгожа, але не піша, трэба зніжаць ацэнку за неахайную, непрыгожа напісаную работу.

5. Калі ў 4-м класе большасць вучняў піша непрыгожа, трэба ўвесці некалькі ўрокаў па чыстапісанню. Гэтае мерапрыемства павінна быць узгоднена з загадчыкам ці дырэктарам школы.

6. Рашаючае значэнне ва ўсёй гэтай справе належыць настаўніку. Настаўнік, які піша сам прыгожа, які заўсёды патрабуе ад вучняў прыгожага пісьма, які ўпарта і сістэматычна вучыць рэбят пісаць прыгожа, заахвочвае прыгожым пісьмом, стварае да яго інтарэс,—такі настаўнік і ў 4-м класе даб‘ецца ад вучняў значнага палепшання почарка.

Акрамя пералічаных мерапрыемстваў для выпраўлення почарка ў 4-м класе, неабходна мець на ўвазе ўсе агульныя ўмовы правільнага прыгожага пісьма.

Выпрацоўка прыгожага почарка пачынаецца з першага года навучання. Справа выпрацоўкі прыгожага почарка пачынаецца з правільнай пасадкі вучня пры пісьме. Ад вучня патрабуецца сядзець прама, не налягаць на парту; ногі вучня павінны ўпірацца ў падножку парты ці на падлогу, а не вісець у паветры. Плечы ў час пісьма павінны быць на аднолькавай вышыні; абедзве рукі павінны ляжаць на парце так, каб локаць знаходзіўся на 2—3 см ад лініі парты; галаву трэба трымаць крыху нахіленай уперад з такім разлікам, каб адлегласць вачэй ад пяра была ў сярэднім 30—35 см.

Немалаважнае значэнне маюць прылады пісьма. Ручка павінна мець выгляд цыліндрычнай палачкі нармальнай таўшчыні. Трэба праверыць, як трымаецца пяро ў ручцы. Калі пяро хістаецца, неабходна яго ўмацаваць, каб яно моцна трымалася.

Правілы трымання ручкі наступныя:

1. Трымаць ручку трыма пальцамі: вялікім, сярэднім і ўказальным, прычым, канец указальнага пальца павінен знаходзіцца на 3—4 мм ад края ручкі.

2. Ручку трымаць вольна, не згібаючы моцна пальцы.

3. Пісаць вучнёўскім пяром.

Правільная пасадка пры пісьме і правільнае карыстанне прыладамі пісьма, уменне правільна рабіць нажым з‘яўляюцца адной з умоў выпрацоўкі прыгожага пісьма.

Навучанне прыгожаму правільнаму пісьму праводзіцца галоўным чынам, на ўроках чыстапісання; побач з гэтым,

навыкі прыгожага пісьма набываюцца на ўсіх ўроках пісьма. На ўроках чыстапісання трэба прытрымліваціа наступнага парадку пісьма:

1) спачатку назіраюцца вывучаемыя літары ў слове і асобна з мэтай вывучэння іх формы. Трэба паказаць літару, яе састаўныя элементы і слова з гэтай літарай на плакаце або дошцы;

2) пісьмо выдзеленых элементаў літары;

3) пісьмо літары ў цэлым;

4) пісьмо слоў з гэтай літарай.

Акрамя ўсяго вышэй пералічанага, трэба мець на ўвазе, што немалую роль мае асабістае жаданне вучняў навучыцца пісаць прыгожа і граматна. Настаўнік павінен з першых урокаў стварыць жаданне пісаць граматна і прыгожа, і сам павінен заўсёды ў гэтых адносінах служыць прыкладам для вучняў.

Школа павінна ўстанавіць такі арфаграфічны і каліграфічны рэжым, які-б забяспечыў такое становішча, каб кожнае слова было напісана граматна і прыгожа. Аб'ява, расклад заняткаў, насценная газета, лозунгі, надпісы на сшытках, рознастайныя віды пісьма вучняў па ўсіх прадметах павінны быць напісаны чотка, прыгожа і граматна.

Барацьба за прыгожае пісьмо знаходзіцца ў пэўнай сувязі з эстэтычным выхаваннем вучняў, якому, на жаль, не ўдзяляюць дастатковай увагі. Падняцце эфектыўнасці нашай выхаваўчай работы, у тым ліку і справы эстэтычнага выхавання, безумоўна, уздыме актыўнасць вучняў у барацьбе за прыгожае пісьмо.

*Настаўніца 25-й школы*
*г. Менска Н. СТРЭЙКІС.*

---

## ЧЫМ СПАЧАТКУ ТРЭБА ПІСАЦЬ—ЧАРНІЛАМІ ЦІ АЛОЎКАМ

(ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА К., ПОЛАЦКІ Р-Н, ЮРАВІЦКІ С/С, ЗАЛЕСКАЯ ПАЧАТКОВАЯ ШКОЛА)

У метадычнай літаратуры па пытанню, чым спачатку пісаць: чарнілам ці алоўкам, няма аднолькавых поглядаў. Метадыст Афанас'еў вырашае гэтае пытанне ў карысць пяра. Але ён пры навучанні грамаце не адмаўляецца зусім і ад алоўка.

Другія метадысты выказваюцца за пісьмо алоўкам. Яны лічаць, што на першых уроках навучання пісьму аловак зручней пяра пры выкананні практыкаванняў у развіцці пальцаў і кісці рукі.

Мой уласны вопыт работы з вучнямі першага класа сведчыць аб тым, што першыя 4—5 урокаў навучання пісьму мэтазгодней пачынаць круглым алоўкам. Я пачынала пісаць з вучнямі і пяром і алоўкам. Вынікі атрымоўваліся лепшыя кожны раз, калі я пачынала пісаць алоўкам. У гэтым выпадку вучні хутчэй пачыналі пісаць правільна літары, хутчэй прывыкалі звязваць літары паміж сабой, выразней станавіўся нахіл, наогул пісьмо станавілася больш прыгожым.

Гэта, відавочна, тлумачыцца наступным:

а) пісьмо алоўкам з'яўляецца для дзяцей больш лёгкім і простым, і паступовы пераход да пяра з'яўляецца натуральным пераходам ад лёгкага і простага да больш цяжкога і складанага;

б) кісць рукі, мускулатура пальцаў у вучняў, пачынаючых пісаць (1-ы клас), яшчэ недастаткова развіты, і пісьмо пяром патрабуе ад іх надта вялікай напружанасці і выклікае хуткае стамленне, у той час як пісьмо алоўкам не патрабуе такога напружання;

в) некаторыя ўменні карыстацца алоўкам дзеці набываюць яшчэ ў дашкольным узросце, і таму пачатак пісьма ў школе пры такіх умовах не выклікае вялікіх цяжкасцей;

г) пісьмо алоўкам таксама аблягчае задачу пісаць чыста і акуратна, бо пісьмо пяром пры зусім яшчэ слабых навыках звязана з забруджваннем сшытка вучняў.

Апрача гэтага тут мае вялікае значэнне і псіхалагічны момант. Першае набытае ўменне пісаць алоўкам стварае некаторую ўпэўненасць пры пераходзе ад пісьма алоўкам да пісьма пяром. Вучань піша больш упэўнена, умее выканаць патрабаванні настаўнікаў у адносінах трымання ручкі, нахілу, звязанасці літар і т. д.

На першых уроках навучання пісьму раней за ўсё неабходна навучыць дзіця трымаць аловак і пяро, навучыць правільна сядзець у час пісання і падрыхтаваць да пісання руку дзіцяці. Гэта падрыхтоўка праводзіцца па наступных відах работы, якія вучню цікавы і трохі знаёмы: рысаванне алоўкам, штрыхоўка і т. д.

Што-ж датычыць чыстапісання, якое пачынаецца з пачатку кастрычніка м-ца, то яно праводзіцца выключна і абавязкова пяром і чарніламі.

*Настаўніца 25-й менскай*
*сярэдняй школы* *ЛІХАЧОВА.*

---

# ВІДЫ ПІСЬМОВЫХ РАБОТ ПА АРЫФМЕТЫЦЫ

(ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА С., БЫХАЎСКІ Р-Н, ВЕТРЫНСКАЯ НСШ)

Для 3, 4 класаў пачатковай школы і для 3, 4, 5, 6 класаў сярэдняй школы практыкуюцца тры віды пісьмовых работ па арыфметыцы: класная, дамашняя, кантрольная.

Класныя работы выконваюцца дзецьмі ў гадзіны звычайных заняткаў пад кіраўніцтвам настаўніка. Парадак выканання класных работ наступны:

запіс лічбовых даных умовы задачы;
пастаноўка пытанняў у вуснай форме;
пісьмовае выкананне рашэння ў сшытках.

Пытанні павінны быць чоткімі, яснымі і правільнымі як з пункту гледжання мовы, так і матэматычнага зместу. Рашэнні запісваюцца ў радок з падрабязным іх выкананнем на палях. У магчымых выпадках выкананне дзеянняў робіцца вусна з запісам рэзультатаў.

Дамашнія работы выконваюцца вучнямі дома самастойна па заданнях настаўніка. Яны выконваюцца больш падрабязна, пытанні ставяцца ў пісьмовай форме і г. д.

Кантрольная работа ставіцца пасля праходжання вядомай закончанай часткі курса і, як правіла, не радзей аднаго раза ў месяц. Парадак выканання кантрольнай работы наступны:

умова задачы;
план і рашэнне;
адказ.

Кантрольная работа правяраецца настаўнікам і ацэньваецца па пяцібальнай сістэме. Ацэнкі яе заносяцца ў журнал і ўлічваюцца пры вывадзе ацэнкі паспяховасці за чвэртку года. Кожная чвэртка года абавязкова заканчваецца кантрольнай работай.

Для кантрольнай работы заводзяцца асобыя сшыткі і захоўваюцца ў справах школы.

У патрэбных выпадках (пры азнаямленні з новым тыпам задач, з новым прыёмам рашэння задачы) вучні выконваюць класныя работы з поўным запісам пытанняў.

Кожная работа абавязкова даціруецца на палях.

На настаўніка ўскладаецца абавязак сачыць не толькі за правільным рашэннем задачы, але і за правільным афармленнем работы як з боку мовы і стылю, так і знешняй чыстаты і акуратнасці.

**Прыклад пісьмовага афармлення арыфметычнай задачы.**

*Задача № 227.* (Глава V-я зборніка задач па арыфметыцы Е. С. Беразанскай.)

*План і рашэнне.*

1. Якую частку работы выконвае першы рабочы ў 1 гадзіну?

$$1:12,5=0,08$$

| | |
|---|---|
| 10 | 12,5 |
| −1000 | 0,08 |
| 1000 | |

2. Якую частку работы выконвае другі рабочы ў 1 гадзіну?

$$0,03:1,5=0,02$$

| | |
|---|---|
| 003 | 1,5 |
| −30 | 0,02 |
| 30 | |

3. Якую частку работы выконваюць абодва рабочыя ў 1 гадзіну?

$$0,08+0,02=0,1.$$

4. За які час зробяць усю работу абодва рабочыя, працуючы разам?

$$1:0,1=10\ (\text{гадзін}).$$

*Адказ:* Абодва рабочыя, працуючы разам, выконваюць работу ў 10 гадзін.

Падрабязныя рашэнні ў патрэбных выпадках выконваюцца на палях. У выпадках, калі рашэнне не патрабуе падрабязных выкананняў, яно выконваецца вусна. Найменаванні пры чыслах неабходна ставіць у патрэбных выпадках.

*Дацэнт САГАЛОВІЧ.*

## ТЫПЫ АРЫФМЕТЫЧНЫХ ЗАДАЧ У 4-ым КЛАСЕ

(ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА М., РЭЧЫЦКІ Р-Н, ПЕРАСВЯТАЎСКІ С/С., РАБУСАЎСКАЯ ПАЧАТКОВАЯ ШКОЛА)

Вы запытваеце аб тыпах задач для 4-га класа. Вы правільна робіце, калі шукаеце адказу на гэтае пытанне. Вядома, ніякая класіфікацыя не можа абняць усёй рознастайнасці задач, але пры ўсім гэтым можна і патрэбна гаварыць аб пэўных тыпах, г. зн. найбольш часта паўтараючыхся і асноўных.

Што належыць да простых задач, г. зн. такіх, якія для свайго рашэння патрабуюць выканання аднаго дзеяння, то такіх тыпаў задач метадысты налічваюць 17 (гл. Д. Д. Валкоўскі, „Методика арифметики в начальной школе"). Звычайна вучні 4-га класа не сустракаюць цяжкасці пры рашэнні простых задач, але ўсё-ж такі я раіў-бы Вам і тут практыкаваць такія простыя задачы, умовы якіх патрабуюць ускоснага рашэння.

Напрыклад. Пасля таго, як аўтамашыны прабеглі столькі-та кілометраў, да фініша яшчэ засталося столькі-та. Колькі кілометраў ад месца старта да фініша?

Умова гаворыць у гэтай задачы аб астачы, г. зн. аб адыманні, а на самай справе для рашэння гэтай задачы патрэбна дзеянне—„складанне".

Не ў простых задачах заключаецца асноўная труднасць для вучняў, а ў складаных, г. зн. у такіх, якія патрабуюць для рашэння двух і больш дзеянняў. Досыць падрабязную класіфікацыю тыпаў складаных задач можаце знайсці ў методыцы арыфметыкі Кавуна і Паповай. Гэтыя аўтары налічваюць 12 тыпаў складаных задач.

1. Задачы на простае трайное правіла з прама-прапарцыянальнымі велічынямі (1-б).
2. Задачы на простае трайное правіла з адваротна-прапарцыянальнымі велічынямі (№ 2).
3. Задачы на складанае трайное правіла (№ 3).
4. Задачы на сярэдне-арыфметычнае.

5. Задачы на змяшэнне (№ 4).

6. Задачы на сустрэчу рухаючыхся цел (№ 5).

7. Задачы, у якіх патрабуецца падзяліць число на часткі па данай рознасці (№ 6-а) або адносінах (№ 6-б).

8. Задачы, у якіх патрабуецца знайсці па данаму числу яго частку (№ 7).

9. Задачы, у якіх патрабуецца вылічыць па данай частцы числа ўсё число (№ 8).

10. Задачы, якія рашаюцца заменай адной невядомай велічыні другой (№№ 9-а і 9-б).

11. Задачы, у якіх патрабуецца вылічыць невядомае число па данай рознасці 2-х велічынь (№ 10).

12. Задачы, якія рашаюцца выключэннем невядомага пры дапамозе адымання (№ 11).

Падаю Вам прыклады такіх задач, часткова ўзятых з гэтага падручніка.

*Задача № 2.* Калі чытаць кнігу па 27 старонак у дзень, то яе можна прачытаць за 8 дзён. За колькі дзён можна будзе яе прачытаць, калі ў дзень чытаць па 36 старонак?

*Задача № 6-а.* У двух паштовых скрынках знаходзіцца 206 пісем; у адной з іх на 18 пісем больш, чым у другой. Колькі пісем у кожнай скрынцы?

*Задача № 10.* У пераплётную майстэрню было здана для пераплёта 1-ы раз 17 кніг, а ў 2-гі раз—12 кніг. За пераплёт у першы раз заплацілі на 3 р. 75 к. больш, чым у другі раз. Колькі каштуе пераплёт кожнай кнігі?

*Задача № 8.* Для пабудовы новага тэатра ўжо падвезена 50 розных балак, што складае $^2/_5$ неабходнай колькасці балак. Колькі ўсяго балак неабходна прывезці для пабудовы?

*Задача № 7.* У школьнай бібліятэцы ёсць 1236 кніг. З гэтай колькасці $^3/_4$ па мастацкай літаратуры, астатнія—падручнікі. Колькі падручнікаў у школьнай бібліятэцы?

*Задача № 4.* Фабрыка-кухня загатовіла 79 куб. м бярозавых дроў па 17 руб. за куб. м і 21 куб. м сасновых дроў па 11 руб. за куб. м. Колькі рублёў каштаваў у сярэднім куб. м дроў?

*Задача № 6-б.* Два кіёскі прадалі за дзень 567 газет. Адзін з кіёскаў прадаў у 2 разы больш газет, чым другі. Колькі газет прадаў кожны кіёск?

*Задача № 5.* З двух гарадоў, адлегласць паміж якімі 630 км, вышлі адначасова 2 паязды—пасажырскі і хуткі—адзін аднаму насустрач. Пасажырскі поезд праходзіць 35 км у гадзіну, а хуткі—55 км у гадзіну. Праз колькі гадзін яны сустрэнуцца?

*Задача № 9-б.* Калгаснік купіў сваім дзецям 4 пары бацінак і 3 пары галош і заплаціў за ўсё 132 руб. Кожная

пара бацінак даражэй кожнай пары галош у 2 разы. Колькі каштавалі калгасніку пара бацінак і пара галош?

*Задача № 9-а.* Фізкультурны гурток купіў 17 пар канькоў і 23 пары лыж. За ўсё заплаціў 521 руб. Адна пара лыж даражэй за адну пару канькоў на 7 руб. Колькі каштуе кожная пара канькоў і кожная пара лыж?

*Задача № 3.* Шэсць электраманцёраў працавалі 3 дні і атрымалі за работу 288 руб. Колькі павінны атрымаць 11 электраманцёраў, якія працавалі 5 дзён?

*Задача № 1-б.* Адрэз палатна ў 63 метры каштуе 198 руб. Колькі трэба заплаціць за 28 метраў гэтага палатна[1])?

*Задача № 11.* На швейнай фабрыцы сшылі 28 паліто і 45 касцюмаў. На ўсе гэтыя паліто і касцюмы пайшло 209 м сукна, а на адно паліто і на адзін касцюм разам ідзе 5 м 7 дм. Колькі сукна пайшло на адно паліто і колькі на адзін касцюм?

У мінулым годзе вышаў дадатковы зборнік арыфметычных задач Паповай і Пчолка, у якім таксама пералічваюцца асноўныя тыпы задач. Яны ў цэлым супадаюць з тымі, якія я Вам падаў.

Гэтыя тыпы задач трэба за год перарашаць. Але не так, каб спачатку рашаць адзін тып, скончыць і больш да яго не варочацца, затым другі і г. д. Не, трэба заўсёды варочацца да, здавалася-б, ужо пройдзеных і вядомых. Дабівайцеся, каб дзеці разумелі, як рашаць, каб навыкі ў рашэнні задач былі асознанымі.

Неабходна прывучыць вучняў да перамагання цяжкасцей пры рашэнні задач, навучыць не прыстасоўвацца да адказу ў задачах, а перш за ўсё зразумець задачу, умець лагічна разважаць пры рашэнні, умець скласці план, перш чым прыступіць да рашэння задачы.

*В. а. ст. навуковага работніка НДІ школьнай педагогікі Е. К. МАТЛІН.*

---

[1]) Для рашэння гэтай задачы трэба спачатку даведацца, колькі каштуе 7 м, г. зн. 198 р. : 9 = 22 р.

---

Рэдкалегія: А. Яворскі (рэдактар). І. Фрэйдман, М. Мерзон.

## ЗМЕСТ






Паступіла ў вытворчасць 11/IX 1937 г. Падпісана да друку 15/X 1937 г. Фармат паперы 60×92 см. Друкав. арк. 2. Зак. 473. Галоўлітбел № 2948. Тыраж 10.000 экз.

Друкарня Акадэміі навук БССР.

